Народная Воля http://www.nv-online.info
15 МАЯ 2012 г.

З-ЗА КРАТАЎ

## І ў турме не адчапіліся

Год таму, 11 мая, пачаўся судовы працэс над **Мікалаем Статкевічам**. Суддзя Людміла Грачова асудзіла палітыка да шасці гадоў зняволення. Суддзя з таго часу была ўнесена ў спіс неўязных у Еўрасаюз і ЗША, а Статкевічу пакаранне зрабілі больш жорсткім — перавялі з калоніі ў турму.

Жонка Мікалая Статкевіча Марына Адамовіч паведаміла "Народнай Волі", што ў апошнім сваім лісце палітвязень піша пра новыя спробы ўціску на яго з боку адміністрацыі. У прыватнасці, палітык паведаміў: *"Тут апошнім часам пачаўся пошук недахопаў, але гэта ўсё я бачу ў Шклове, і таму — не ўражвае..."*

Марына Адамовіч дзеянні супрацоўнікаў адміністрацыі тлумачыць тым, што яны ствараюць фармальныя падставы для таго, каб мець магчымасць змясціць палітвязня ў карцар, альбо для таго, каб не пераводзіць яго на больш мякі рэжым адбыцця пакарання.

### ТЫМ ЧАСАМ

Дэпутаты бундэстага Германіі выказалі падтрымку Мікалаю Статкевічу. Напярэдадні гадавіны абвяшчэння прысуду яны звярнуліся да яго з адкрытым лістом.

*"Мы, дэпутаты і члены камітэта па замежных справах нямецкага бундэстага, выказваем табе ў гэтым лісце нашу салідарнасць і поўную падтрымку ў тваёй непахіснай барацьбе як былому сацыял-дэмакратычнаму кандыдату ў прэзідэнты і лідару апазіцыі, — гаворыцца ў лісце. — Мы працягваем патрабаваць неадкладнага вызвалення ўсіх палітычных зняволеных з турмаў і калоній, а таксама захавання ў дачыненні да іх канстытуцыйных працэдур і прадастаўлення медыцынскага забеспячэння.*

*Дарагі Мікалай, у Германіі мы вельмі часта абмяркоўваем тваю сітуацыю і сітуацыю ў Беларусі. Мы жадаем табе шмат сілы і веры! Заставайся моцным і ўпартым! Мы вельмі спадзяёмся, што гэтыя ўмовы не змогуць паўплываць на тваю годнасць і тваё здароўе".*

Ліст падпісалі **Гернат Эрлер, Ута Цапф і Франц Тэнэс**.

## Паўгода ў карцары

Беларускае заканадаўства забараняе людзям, якія адбываюць пакаранне ў месцах пазбаўлення волі, ліставацца паміж сабой. Палітвязні не могуць перапісвацца.

Пра гэта расказала паплечніца **Зміцера Дашкевіча — Наста Палажанка**:

*— Зміцер амаль у кожным лісце просіць мяне перадаць ад яго словы падтрымкі Мікалаю Статкевічу ды іншым палітвязням. Ён можа сёння пісаць лісты толькі Паўлу Севярынцу, бо той адбывае пакаранне на "хіміі". Іншым — нельга. Як справы ў самога Дзімы? Хутка скончыцца паўгадавы тэрмін адбыцця пакарання ў так званым памяшканні камернага тыпу. Ён быў у ПКТ у Горках, цяпер і ў Глыбокім. Так што ніякае ўмоўна-датэрміновае вызваленне ці амністыя яму не свеціць.*

Такая сітуацыя амаль ва ўсіх палітвязняў — у таго ж Аляксандра Францкевіча, напрыклад. Палітычныя адчуваюць ціск і асобую ўвагу да сваіх персон з боку адміністрацый. Амаль кожны з іх фармальна з'яўляецца "злосным парушальнікам рэжыму адбыцця пакарання". Такім чынам, выканаты ўсе фармальнасці, каб тыя людзі прабылі на зоне як мага больш часу і не трапілі пад амністыю.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

## Анатолий КУЛЕШОВ: «Нужно вовремя обращаться к врачам...»

*На минувшей неделе А.Лукашенко назначил нового министра внутренних дел. Им стал полковник Игорь Шуневич.*

*Почему отправили в отставку генерала Анатолия Кулешова?*

Как стало известно "Народной Воле" от источников, близких к окружению бывшего шефа МВД, Кулешов давно поставил руководство страны в известность о том, что у него возникли серьезные проблемы со здоровьем. И даже вроде бы написал рапорт об уходе. Последние полгода Анатолий Кулешов много времени проводил в больницах — у него диагностировали онкологическое заболевание. Причем далеко не на ранней стадии. Анатолий Нилович перенес несколько операций, некоторое время находился на реабилитации в Республиканском научно-практическом центре медицинской экспертизы и реабилитации.

Кстати, за это время генерал Кулешов сильно похудел и даже отрастил бороду...

В воскресенье, когда "Народная Воля" дозвонилась до генерала, Анатолий Кулешов был в МВД. Скорее всего, Анатолий Нилович сдавал дела своему сменщику и поэтому от разговора вежливо отказался. А что касается комментария по поводу состояния своего здоровья, то бывший министр ограничился коротким советом: *"Чтобы в будущем не возникало серьезных проблем, нужно вовремя обращаться к врачам..."*



**Новый и старый министры внутренних дел.**

### КАДРЫ

## Кто такой Игорь Шуневич?

Новому министру всего 45 лет. Он родился не в Беларуси, а в Украине (Луганская область). Дослужился до замначальника УВД Минского облисполкома. В 2007—2012 годах работал в КГБ Беларуси — возглавлял следственное управление, а затем главное управление по контрразведывательному обеспечению правоохранительных и контролирующих органов, борьбе с коррупцией и организованной преступностью. В январе 2012 года назначен первым заместителем министра внутренних дел Беларуси — начальником криминальной милиции.

**Марина КОКТЫШ.**

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ

## У бліжэйшыя дні чакаюцца моцныя магнітныя буры

*На Сонцы сфарміравалася гіганцкая актыўная вобласць, якая ў бліжэйшы час падыдзе максімальна блізка да Зямлі.*

*"Ступень развіцця актыўнай вобласці і яе цяперашняе становішча на сонечным дыску прымушае чакаць значных сонечных выбліскаў, частка з якіх выкліча абурэнне ў магнітным полі Зямлі і, магчыма, з'яўленне патокаў пратонаў"*, — паведаміў Інстытут прыкладной геафізікі "Росгидромета".

Па словах экспертаў, ***у маі чакаецца яшчэ некалькі магнітных бур: 16 мая*** — з 15.00 да 19.00, ***20 мая*** — з 14.00 да 17.00, ***21 мая*** — з 04.00 да 07.00, ***23 мая*** — з 03.00 да 06.00, ***29 мая*** — з 08.00 да 10.00.

Паводле данных статыстыкі, каля 70% інфарктаў, гіпертанічных крызаў і інсультаў здараюцца якраз падчас так званых магнітных бур.

Як адзначаюць навукоўцы, пры ваганні магнітнага поля Зямлі, якое адбываецца ў выніку павелічэння сонечнай актыўнасці, кроў курсіруе па капілярах значна павольней. Адпаведна, немінуча надыходзіць кіслароднае галаданне тканін органаў. У арганізме адбываюцца змены.

У якасці ахоўнай рэакцыі на негатыўнае дзеянне навакольнага асяроддзя ў такія моманты назіраецца павышэнне ўзроўню халестэрыну і адрэналіну. Гэта прыводзіць да павышанай стамляльнасці, раздражняльнасці, стомленасці, да зніжэння жыццёвай актыўнасці.

Таксама медыкі раяць пазбягаць фізічных і эмацыянальных нагрузак, якія могуць перагружаць сасуды і нервовую сістэму. Акрамя таго, рэкамендуецца не пераядаць і не злоўжываць тлустай ежай.

ЧОРНАЯ ЗДАНЬ

# Ленін з намі...

*6 верасня 1991 года дэпутаты Мінгарсавета прынялі рашэнне "Аб замене помніка Леніну на плошчы Леніна ў Мінску". Мінула больш за 20 гадоў, але як стаяў Ільіч на сваім пастаменце, так і стаіць: ні гарвыканкам, ні гарсавет і пальцам не паварушылі, каб выканаць імі ж прынятае рашэнне. Чаму?..*

Для бальшыні мінчан і ўвогуле беларусаў адказ больш чым відавочны: кожнаму вядома, хто ў доме гаспадар... Некалі (падчас панавання камуністычнага рэжыму) нам баялі пра ўладу народа, хоць на самай справе крамлёўскія ўладары і іх памагатыя клалі на народ вялікі камуністычны прыбор — ім тая звычка перайшла ў спадчыну ад самога... Леніна. Як паўстала пытанне рубам — быць камуністычнай утопіі ці не быць — правадыр пралетарыяту не цырымоніўся:

*"...Речи о равенстве, свободе и демократии в нынешней обстановке — чепуха... Я уже в 1918 году указывал на необходимость единоличия, необходимость признания диктаторских полномочий одного лица с точки зрения проведения советской идеи. Все фразы о равноправии — вздор"* (Ленін У.І. Збор твораў, т. 30).

Кажуць, гісторыя нічому не вучыць — адно перасцерагае... Толькі падобна на тое, што цяперашнія "выразнікі дум народных" забыліся і на гэта, інакш бы пытанне аб замене помніка было даўно вырашана. Але — ці то памяць кароткая, ці то "необходимость признания диктаторских полномочий" змусіла тых выразнікаў забыцца на некалі прынятае рашэнне. Ды і дэпутацыя гарадская разам з выканкамаўскімі памянялася. Але ж правапераемнікі...

На ўсялякі выпадак тэлефаную ў Мінгарсавет, каб усё ж звсдаць пра далейшы лёс Ільіча, дакладней сказаць, ягонай манументальнай бронзавай постаці, якая чорнай зданню навісла над Плошчай Незалежнасці...

"*Такое рашэнне, можа, і было прынята, але ж калі тое было...* — з неахвотаю выказала сваё меркаванне спадарыня Вольга Засенская, памочніца цяперашняга старшыні прэзідыума Мінгарсавета Міхаіла Савановіча. — *Верагодней за ўсё, дакумент даўно ў архіве, за даўнасцю часу і ў адпаведнасці з палажэннем аб захоўванні дакументацыі яго туды і справадзілі. Калі рашэнне прымалася 20 год таму, то, мусіць, захоўваецца ў Нацыянальным архіве..."*

У верасні 91-га палітычныя жарсці захліснулі беларускую сталіцу, перадусім Вярхоўны Савет БССР... Да пачатку нечарговай сесіі Вярхоўнага Савета 12-га склікання, на якой была зацверджана назва беларускай дзяржавы — Рэспубліка Беларусь і яе дзяржаўныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня", засталася два тыдні. Перад тым (6 верасня) Гарадскі савет і прыняў рашэнне аб замене помніка Леніну. Мела месца не толькі эйфарыя ад зваленай на галаву свабоды, але і ўсведамленне многімі дэпутатамі, што насамрэч сімвалізуе злавесная фігура Ільіча... Такое сталася дзякуючы "перабудове", якая вярнула працы буйнейшых філосафаў — М.Бярдзяева, П.Сарокіна, У.Разанава, якая дала магчымасць учытацца ў творы І.Бродскага, У.Аксёнава, А.Платонава, у раней забароненыя вершы Янкі Купалы... Калі на старонках газет і часопісаў з'явілася не прычасаная цэнзурай публіцыстыка, стала ясна — спыніць разняволенне чалавечага духу немагчыма. Хіба што ў выпадку, калі вылупіцца чарговы ленінска-сталінскі клон, які возьмецца за старое:

*"...Необходимо провести массовый беспощадный террор против кулаков, попов и белогвардейцев; сомнительных запереть в концентрационный лагерь..."*(Ленін У.І. Зб. тв., т. 29).

*"... Ни минуты промедления. Надо действовать вовсю; массовые обыски. Расстрелы за хранение оружия. Массовый вывоз меньшевиков и ненадежных..."* (Зб. твор., т.35).

"...*Суд должен не устранить террор, обещать это было бы самообманом и обманом, а обеспечить и узаконить его принципиально, ясно, без фальши и без прикрас"* (Зб. твор., т. 27).

*"...Надо именно теперь проучить эту публику так, чтобы на несколько десятков лет ни о каком сопротивлении они не смели и думать"* (З выступлення Леніна на Палітбюро 19 сакавіка 1922 года).

У 1991 годзе не верылася, што цень ленінска-сталінскага палітычнага і сацыяльнага генацыду калі-небудзь уваскрэсне. Але... уваскрос. Ды не дзе-небудзь, а ў Беларусі. Рэпрэсіі не цягнуць на масавыя расстрэлы, затое масавыя арышты, здзекі і нават катаванні сталі амаль звыклай справай; Ленін стварыў постмадэрнісцкую Інквізіцыю — ВЧК, цяперашні "клон" — яшчэ больш разгалінаваны і спецыялізаваны рэпрэсіўны апарат у выглядзе розных спецназаў, "алмазаў" і "народных" судоў. Ленін стварыў, а Сталін прышчапіў мільёнам людзей псіхалогію абложанай крэпасці — паўсюль адны ворагі. Калі такія не знаходзяцца, іх прыдумляюць... Замбіраванне, праграміраванне на Зло і Абсурд — інструментарый таксама з ленінскага "куфэрка". У наш час, маючы пад рукою падкантрольныя друкаваныя і электронныя СМІ, замбіраванне набыло татальны характар: падручных у гэтай справе хапае, як хапала іх пры Леніне—Сталіне. І ворагі, зразумела, на кожным кроку — іншадумцы...

Ваяўнічы пыл цяперашняга аватара Зла нечым нагадвае той самы — ленінскі стыль расправы з іншадумцамі. Ён (Ленін. — **Аўт**.) гуляў, паводле выказвання расійскай дысідэнткі Валерыі Навадворскай (нарадзілася ў Баранавічах, дарэчы), на ўсіх дошках адразу, не грэбуючы і краплёнымі картамі, і пераменай правілаў у час гульні. А калі трэба было, ён змешваў фігуры, скідваў іх з дошкі і біў дошкай па галаве і гросмайстра насупраць, і гледачоў, і арбітраў матча. Як гэта знаёма ахвярам цяперашняга рэжыму!.. Дастаткова ўспомніць і параўнаць разгон Устаноўчага сходу ў Петраградзе і разгон дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання...

*"Няма іншай такой гістарычнай фігуры,* — упэўнена спадарыня Навадворская, — *адносна якой гэтак бы памыляліся сучаснікі, нашчадкі, гісторыкі, пісьменнікі, драматургі і палітыкі. Яшчэ можна зразумець небарак-камуністаў (ад якіх генетычна пайшлі шасцідзясятнікі), якія, трапіўшы ў сталінскую печ, ад гора і бядот уявілі, што пад Леніным было б прахалодней. І тут жа ўзнік шэраг міфаў: пра тое, што Леніна сказіў Сталін, пра "добрага дзядулю Леніна", пра "сацыялізм з чалавечым тварам", які ён нібыта планаваў і ў які, здаецца, шчыра верылі Млынарж, Горбі, ды і сам Дубчак з таварышамі. І цяпер, здаецца, ёсць нейкія "еўракамуністы" і італьянскія, і французскія, якія працягваюць верыць. Сам Оруэл верыў, пакуль у 30-я гады, паехаўшы ратаваць Іспанію ад Франко, не трапіў у лапы камуністаў, якімі кіравалі з Крамля. Прайшоўшыя лагеры і цудам уцалеўшыя партыйцы марылі пра тое, каб скончылася сталінская эра ды вярнуліся яны да "ленінскіх нормаў".*

*Сталін, канечне, монстр, але ён будаваў свой канцлагер не на пустым месцы. Ленін зрабіў для яго вельмі нават прыстойны катлаван. Той самы "Катлаван" Платонава напалам з ягоным жа "Чэвенгурам". Слабо было недавучку Сталіну з мінулым семінарыста і "бандзюгана", над якім пацяшаліся вучоныя-марксісты ў Парыжы за няведанне моў, знішчыць цывілізацыю на 1/6 часткі сушы. Сталін не здолеў бы захаваць пякельнае дрэва Утопіі і правалачы яго праз рэвалюцыю 1905 года, вайну 1914 года, Люты, Грамадзянскую вайну, Кранштат, нэп, Рапала. Ленін быў найлепшым замагільным вучнем Макіявелі. І ўсе цёплыя ўспаміны пра добранькага "дзядулю" абсалютна лжывыя*".



У канцы 80-х — пачатку 90-х уся праўда пра "дзядулю" Леніна ўсплыла над абсягамі СССР. У краінах Балтыі, ва Украіне і ў самой Расіі помнікі правадыру пачалі здымаць з п'едэсталаў, звозіць у так званыя паркі савецкай скульптуры. У Беларусі хоць і вяла, але таксама вялася дыскусія наконт дэмантажу, замены помніка Леніну.

Вядомы гісторык прафесар Захар Шыбека прапаноўваў сабраць усіх Леніных (у Беларусі налічваецца больш за сотню манументаў) у адным месцы. Аргументаваў пазіцыю наступным чынам: *"У суседняй Літве, Польшчы гэтыя героі даўно не ўпрыгожваюць вуліцы і гарады, бо штучна насаджаліся, і адразу пасля распаду СССР сталі незапатрабаваныя. Мяркую, Беларусі найбольш пасуе прыклад Літвы, дзе створаны цэлы музей пад адкрытым небам, куды звезлі ўсе помнікі Леніну, Сталіну і іншым. Не думаю, што іх трэба бурыць, як тое рабілі бальшавікі пасля захопу ўлады. Музеіфікацыя дазволіць убачыць, якімі раней былі нашы ідэалы, які гістарычных шлях мы прайшлі. Адзінае, яны маюць патрэбу ў мадэрнізацыі і ўдакладненні гістарычнай праўды".*

Літоўскі парк Gruto, з якога Захар Шыбека прапаноўваў браць прыклад беларусам, знаходзіцца непадалёку ад Друскінінкая. Запаведнік савецкай эпохі, які турысты з Заходняй Еўропы называюць таксама StalinWorld ці LeninLand, быў заснаваны літоўскім прадпрымальнікам Вілюмасам Малінаўскасам у 2001 годзе. Акрамя помнікаў Леніну, Сталіну, Марксу, тутэйшым камуністам і ваенным дзеячам часоў СССР у парку сабраны іншыя савецкія "сувеніры" — плакаты, ваенная тэхніка, бытавыя рэчы ды іншае.

Былі і іншыя меркаванні. Напрыклад, драматург Аляксей Дудараў выказаўся так: *"На плошчы, якая ў Мінску пакуль што яшчэ носіць яго імя* (Леніна. — **Аўт**.), *збіраюць подпісы ў абарону Леніна і помніка яму. Я не паставіў і ніколі не пастаўлю свайго. Я не хачу яго ні судзіць, ні абараняць. Ёсць у яго і справядлівы суддзя, ёсць і свае абаронцы. А вось помнік абавязкова трэба захаваць! Гэта сёння ён помнік У.І.Леніну, а праз колькі год ён стане помнікам ленінізму, нашай агульнай трагедыі, чорнаму часу, помнікам Гісторыі, якую, і гэта даказаў наш горкі вопыт, ніхто і ніколі не зможа перапісаць. І ў мяне не было б пытанняў, калі б ён стаяў недзе ў парку, на плошчы, дзе музей, магазіны і г.д. Але ж сёння за спінай чорнага манумента — вярхоўная ўлада краіны. Не дапасоўваецца да чорнай постаці Ільіча ўрачысты і святочны бел-чырвона-белы сцяг. Пакуль на плошчы Ленін, помніку Незалежнасці там месца няма. Але хай пакуль што стаіць спакойна. Час усё зробіць сам. Справядліва і мудра. Рэвалюцыя не абараняла ад вандалаў ні культуру, ні рэлігію, ні мову, ні сімвалы, а мы павінны абараняць яе злавесныя сімвалы і помнікі. Абараніць ад неаленінцаў. Для Гісторыі".*

Супраць дэмантажу і замены помніка выступілі некаторыя архітэктары, мастацтвазнаўцы, навукоўцы. Матывацыя прыкладна адна і тая ж: "Помнік уяўляе сабой высокамастацкі твор манументальнага мастацтва 30-х гадоў". Былі і іншыя прапановы, з іншай аргументацыяй. *"Манумент У.Леніна неабходна захаваць у тым выглядзе, у якім ён зараз існуе, і на тым жа месцы,* — абнародавалі пазіцыю супрацоўнікаў інстытута "БелНДІгіпрасельбуд" галоўны архітэктар інстытута В.Ларын і старшыня пярвічнай арганізацыі Саюза архітэктараў А.Старасценка. — *Разам з тым мы ўсведамляем несумяшчальнасць манумента з будынкам, які сімвалізуе сабой Вярхоўную ўладу ў рэспубліцы. У гэтай сувязі мы прапаноўваем перанесці Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь у іншы будынак. Нам уяўляецца, што для гэтага лепш за ўсё падышоў бы будынак ЦК КПБ..."*

Ведалі б тыя архітэктары, хто неўзабаве стане рэальна сімвалізаваць сабой Вярхоўную ўладу, куды тая ўлада перабярэцца з Дома ўрада і што яна будзе вытвараць... Некалі, пасля гвалтоўнага перавароту ў 1917 годзе, бальшавікі перайменавалі ўсё, што нагадвала пра дарэвалюцыйны лад жыцця, — вуліцы, плошчы, гарады... Гэта рабілася з адною мэтаю — сцерці з памяці "стары лад жыцця", сцвердзіць у свядомасці людзей камуністычныя каштоўнасці. Ну адкуль было ведаць фанатыкам, што тыя каштоўнасці аднойчы ляснуцца і ўсе іхныя камуністычныя ідэалы — разам з палітычна выверaным, ідэалагічна заточаным мастацтвам — накрыюцца медным тазам. Але здарылася тое, што і павінна было здарыцца, — вялікая Утопія Леніна—Сталіна, якая прынесла людзям столькі гора, адышла ў царства ценяў... Паўсюль на зямлі — акрамя Беларусі... Тут усё яшчэ блукае чорная здань камунізму. І хоць тая здань трансфармавалася, муціравала — яе ідалы на кожным кроку. І ніхто не збіраецца тых ідалаў выкідваць на сметнік гісторыі. Чаму? Верагодна таму, што цяперашняй вярхоўнай уладзе тыя ідалы — браты родныя...

"Час усё зробіць сам", "Рэвалюцыя не абараняла ад вандалаў ні культуру, ні рэлігію, ні мову, ні сімвалы, а мы павінны абараняць яе злавесныя сімвалы і помнікі. Абараніць ад неаленінцаў. Для Гісторыі". Прыгожа сказана, але не да месца, бо на плошчы Незалежнасці — замест помніка змагарам за свабоду Бацькаўшчыны — усё яшчэ Ільіч з памятай кепкай. І паказвае нам шлях у будучыню... Той самы Ленін, у якім не было ніводнай нацыянальнай традыцыі: ні славянскай, ні скандынаўскай, ні Дзікага поля, ні ардынскай, ні візантыйскай. Ён і напраўду — чалавек in vitro. Перад намі той, які напісаў кучу кніжак, у якіх высмеяў і перакрэсліў усё чалавечнае, што было на Зямлі, — за неадпаведнасць ягонай утопіі. У 30 з лішкам тамах адкрыта і цынічна растлумачыў, як скруціць усіх у бараноў рог. Ды яшчэ пакінуў пасля сябе практычны дапаможнік для ўсіх аўтакратаў і будаўнікой таталітарнай дзяржавы — як для прыходу да ўлады, так і для яе ўтрымання. Дапаможнікам карыстаюцца і па сёння... Таму нічога дзіўнага ў тым, што рашэнне Мінгарсавета ад 6 верасня 1991 года тлее ў архіве: для ленінскіх клонаў постаць Ільіча — усё яшчэ жывая ікона. Дык пра які дэмантаж, пра якую замену чорнай здані можна калякаць: воран ворану вока не выдзеўбе...

**Георгій ЧЫГІР.**

# Пинский Маугли

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

### Вился в тесной землянке огонь

Как следует из материалов уголовного дела, первую кражу беглец совершил вечером 16 сентября в гараже по ул.Красноармейской в городе над Пиной, когда приставил лестницу к стене и проник внутрь через вентиляционное отверстие. При этом разбил голову, пошла кровь. Но зажег свечу и, заметив в стоявшем там автомобиле удочку с катушкой, разбил боковое стекло и забрал ее. Еще прихватил фуфайку. Но ничего больше. Вторая кража — через месяц в строящемся индивидуальном жилом доме по ул.Пестрака, где "улов" оказался побогаче: две "болгарки" и дрель, которые загнал по дешевке возле мясокомбината неизвестным мужчинам. И пошло-поехало... Там, в лесном массиве возле дачных участков вблизи д.Бердуны, подальше от города, он и оборудовал себе что-то наподобие землянки.

По материалам следствия, у него была возможность сдаться с повинной. Случилось это 5 декабря в садоводческом товариществе "Лесное-3", куда в один из дачных домиков забрался наш отшельник. Туда по звонку соседа по даче, увидевшего, что в доме разбито стекло и сорвана решетка, приехала хозяйка дачи. Она вызвала милицию. Вместе с сотрудниками осмотрела домик: обнаружили на полу спички, чужой ножик, сложенные в пакет продукты из холодильника. Милиционеры составили протокол опроса и уехали ни с чем. Не знали они, что в это время внутри дивана, на который для составления протокола присел сотрудник, спрятался малолетний злоумышленник. Этот казус подтверждают не только слова пацана, но и поврежденная решетка другого окна — дом закрыли, подругому он не мог выбраться.

Он сам вышел из землянки навстречу сотрудникам милиции, когда те приехали в лес. Подростка поместили на обследование в больницу. Там в течение месяца проводили психологическую экспертизу и сделали заключение, что пациент вменяем и адекватен.

### Разбуженное общество

История подростка, сбежавшего из интерната в лес, вызвала в регионе большой резонанс. Впервые о ней рассказал в феврале этого года на страницах газеты "Вечерний Брест" ее пинский корреспондент Павел Куницкий. Люди, неравнодушные к судьбе мальчика, призвали редакцию и друг друга помочь мальчишке-сироте избежать далеко не детского наказания, писали, что он получит шанс остаться на свободе, если компенсировать потерпевшим материальный ущерб.

Но на возмещение материального ущерба (более четырех миллионов рублей) денег у 15-летнего беглеца не было. Как и близких людей, готовых помочь сироте. На суде в Пинске 14 февраля выяснилось, что соответствующих средств не оказалось и у гражданского ответчика — Пинской школы-интерната, как заявила ее главбух. Читатели бросили клич возместить этот ущерб сообща, собрав деньги через газету. Нужно отметить, что из 11 потерпевших 7 человек, узнав обстоятельства дела, отказались от каких-либо претензий к местному Маугли.

Тем временем общественность собирала деньги на компенсацию оставшимся. Первый денежный перевод на 200 тысяч рублей пришел из Минска, 50 тысяч — из Пуховичского района... Процесс пошел... К моменту, когда в областном суде состоялось заседание судебной коллегии, читатели собрали около 12 миллионов рублей (**11.775.500**). Из них 4.020.000 рублей было возвращено потерпевшим в возмещение материального вреда, а более 7,5 миллиона будут потрачены на мальчишку, на самое необходимое для него.

Простые люди и журналисты спасли мальчишку от тюрьмы. Настало время назвать подлинное имя полесского Робинзона — это Гриша Дайко, 29 сентября 1996 года рождения, уроженец Пинска, учащийся местной школы-интерната.

Как сказала после суда судья Нина Герасимук, юрист с 29-летним стажем, курирующая вопросы соблюдения законности в отношении несовершеннолетних, определение суда уже выслано в Пинскую школу-интернат, которая обязана принять меры по доставке своего воспитанника из Барановичского СИЗО-6 в родные пенаты. Что касается самого СИЗО, то, как выяснилось в канцелярии по уголовным делам облсуда, аналогичное определение было послано туда спецпочтой только в понедельник, 14 мая. Поэтому на момент подготовки этого материала мы не знали, вышел ли Гриша на свободу, приехали ли за ним из интерната. "Самое обидное в этой истории, что ребенок чувствовал себя никому не нужным", — заключила после этого суда Нина Герасимук. Может, сейчас что-то в его судьбе изменится? Все-таки ему помогали люди, которые и не знают его совсем, и ничего ему не должны... Может, тот факт, что люди протянули ему руку помощи, даст мальчишке силы и надежду?

**Александр КОВАЛЬЧУК.**

**Брест.**





**На снимках:** *Таким вот образом пинский Робинзон оборудовал свое лесное убежище (Фото из материалов следствия, опубликованные в газете "Вечерний Брест").*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Кроў

**Беларускія бальніцы забіты людзьмі, якія хочуць здаць кроў. Прычына празаічная: кроў здаюць, каб выжыць, каб папоўніць сямейны бюджэт.**

*Калі сцяжынкаю крывою*
*Ідзе махляр ці прайдзісвет,*
*"Адплаціш ты сваёй крывёю!" —*
*Крычаць яму ахвяры ўслед.*
*Калі захопнік-вораг люты*
*Заб'е сям'ю, бацькоў, сяброў,*
*Яму мы помсцім за пакуты*
*І абяцаем: "Кроў за кроў!"*
*У нас жыццё цяпер — сутонне...*
*За тое, што народ нямы,*
*У літаральным сэнсе сёння*
*Сваёй крывёю плацім мы.*

## «Белапрусія»

**У навінах (тэлеканал "Беларусь 1") нашу краіну назвалі "Белапрусія". У Магілёве пераможцам школьных алімпіяд уручылі дыпломы з надпісамі "Беласусь". Рэктар БДУ на міжнародным форуме пазначыў краіну як "Белорусь"...**

*Заклікаю я каторы год*
*(Тое лічыць хтось маёй правінаю):*
*Беларусы мы! Адзін народ!*
*Ганарыцца трэ сваёй краінаю!*
*Толькі не свінні таварыш гусь,*
*Марна заклікаю год каторы я:*
*"Белапрусія"*
*Ці "Беласусь" —*
*Не Радзіма ім, а тэрыторыя.*
*Я ў іх сэрцы грукаю дарма,*
*І дарэмна ў тыя душы прyся я:*
*Беларусі для такіх няма,*
*Як няма і колішняе Прусіі...*

## Аброць

**Беларусь рыхтуецца збіраць 120 тысяч кітайскіх аўтамабіляў у год. Расійскі пасол Аляксандр Сурыкаў заявіў: Расія можа ўвесці абмежаванні на ўвоз камплектуючых з Кітая...**

*Народ бязвольны, як караўка...*
*Яго таўхаюць, як заўжды.*
*Стаіць народ, як раскірака —*
*І не туды, і не сюды.*
*Глядзім мы — вочы па капейцы,*
*Ні ўласных дум няма, ні мар.*
*І думаем: мы еўрапейцы,*
*Ці мы атожылкі татар?*
*І нашай роспачы-адчаю*
*Няма мяжы, як і спрадвек.*
*І хто мы ёсць — то вызначае*
*Адзін уладны чалавек...*
*Еўропы позіркі касыя...*
*Ды мы на Усход імкнёмся, хоць*
*Яна, імперская Расія,*
*На нас накідвае аброць...*

## Мяса

**"Мармуроваму мясу — быць! — сказаў прэзідэнт. — Трэба сваіх людзей прывучаць да нармальнага мяса..." Каштуе такая ялавічына да 500 долараў за кілаграм!**

*"Каб дужым быць,*
*Каб быць здаровым,*
*І каб прыстойным быў твой род,*
*Патрэбна мясам мармуровым*
*Заўсёды "набіваць жывот"!" —*
*Быў заклік вылучаны ў масы*
*Уладаю з нядаўніх пор.*
*— А што за харч? А што за мяса? —*
*Распытваў у людзей Рыгор.*
*Не змог ніводзін пахваліцца*
*Дасведчасцю, сказаць як след,*
*Пакуль не выцягнуў з паліцы*
*Энцыклапедыю сусед.*
*— Далікатэс такое мяса, —*
*Сусед па тэксце вёў рукой, —*
*Патрэбна, каб бычок з калгаса*
*Смактаў паўгода малако.*
*Затым — тут гэтак пішуць — трэба*
*Бычка справоджваць год-другі*
*(Каб не было ў ім бачна рэбраў)*
*На сакавітыя лугі.*
*А каб калорыяў хапіла*
*І каб бычок належна рос,*
*У рацыёне трэба піва.*
*Бычок, выходзіць, як "насос"...*
*І каб была ў тым піве пена —*
*Інакш не мецьме інтарэс.*
*Дадаткам музыкай Шапэна*
*Патрэбна аздабляць працэс.*
*Рыгор не мог паверыць клёпкам,*
*Душу тапіла каламуць...*
*Пайшоў у краму, каб хоць вокам*
*На мяса гэтае зірнуць.*
*І выглядала мяса гожа...*
*Аднак жа за кіло — мільён!*
*"Любы наесці карак можа*
*За гэткі спраўны рацыён, —*
*Рыгор падумаў. — Божа мілы!*
*Я б мог ахвяраваць сабой:*
*Калі б мяне вось так кармілі,*
*І сам пайшоў бы на забой..."*

ВЗГЛЯД

## Неоднозначное решение

*Слышала, что законодатели приняли решение о недопустимости нахождения после 23 часов подростков до 16 лет на улице без сопровождения взрослых. С одной стороны, это якобы забота о безопасности детей, с другой — как понять принятое недавно решение о получении паспорта с 14 лет?*

Выходит, вручая человеку паспорт в 14 лет, государство признает его самостоятельным, отвечающим за свои поступки. Но в то же время ограничивает его в праве нахождения, как взрослого, на улице. Нет ли здесь противоречия?

Интересно, что содержится по этому поводу в законодательствах других стран? В США, я знаю, нельзя оставлять детей одних даже дома, пока им не исполнится 12 лет. У нас почему-то такого (здравого) требования нет, что приводит к жертвам среди детей из-за несчастных случаев.

Чем руководствовались наши законодатели, принимая это не совсем однозначное решение — непонятно. Как, впрочем, и то, что не было общественного обсуждения, как это положено при решении столь важной проблемы.

## Чтобы скорее забыли?

25 апреля, проезжая по столичному проспекту Независимости, заметила: везде праздничные флаги. И это — накануне дня Чернобыльской трагедии! Разве нельзя было украсить город за 2—3 дня до Первомая, а не в этот страшный день? Видимо, кому-то очень хочется, чтобы люди поскорее забыли эту дату и даже (что кощунственно!) считали этот день "праздничным"?

В голове не укладывается...

**Розалия РУБИНЧИК.**

*Минск.*

SOS!

# Як беларусам пазбегнуць лёсу ўжо зніклых прусаў?

## *Майскі рэферэндум 1995 года давёў мову тытульнай нацыі да мяжы знікнення*

*Не лішне нагадаць вядомае. У 2010—2011 навучальным годзе ў беларускамоўных установах агульнай сярэдняй адукацыі Беларусі навучаліся толькі **19,1%** вучняў 1—11-х класаў. Дагэтуль у нас няма аніводнага цалкам беларускамоўнага тэхнікума, каледжа, універсітэта. Нацыянальныя мовы народаў, якія не дасягаюць 30-працэнтнай колькасці навучэнцаў на роднай мове, ЮНЕСКА заносіць у спіс выміраючых. У тым сумным спісе ўжо значыцца беларуская мова, толькі не ганарыцца нам трэба гэтым, а гарэць сорамам.*

Мне страшна ўявіць, што беларускую нацыю можа напаткаць, напрыклад, лёс прусаў — вялікага славянскага народа, якога ўжо няма і ніколі не будзе сярод суквецця народаў свету, бо мова яго мёртвая. На вялікі жаль, нямногія беларусы заклапочаны тым, што і нас чакае перспектыва знікнення — калі не ачомаемся, не адумаемся, не зменім сітуацыю ў краіне.

Няўжо кіраўніцтва дзяржавы, дэпутаты, адказныя чыноўнікі не ведаюць аб такой праблеме, не разумеюць гістарычна-глабальнай адказнасці не толькі перад беларускім народам, а і перад усім светам? Адказам на гэтае пытанне — гаротны стан дзяржаўнай мовы тутыльнай нацыі ў Рэспубліцы Беларусь.

На жаль, нават сярод навукоўцаў-філолагаў сустракаюцца асобы без беларускай самасвядомасці. Яны ўпарта, як і раней, працягваюць абгрунтоўваць расійскую імперскую пазіцыю "о единстве белорусского и русского языка" і без грамадзянскага сумлення назіраюць, як на іхніх і нашых вачах нямее беларускі народ. Чытаеш сцвярджэнне вядомага навукоўца, прафесара А.Міхневіча: "Пры дасканалым веданні дзвюх моў і аднолькава лёгкім валоданні імі можна гаварыць пра *дзве родныя* **(выдзелена М.С.)** для асобы мовы" *("Беларуская энцыклапедыя", том 13, стр. 397)* — і дзіву даешся. Такой "логікай" можна абгрунтаваць і ўбіць у галаву дзіцяці, а далей і дарослага чалавека, што ў яго няма адной — роднай, Богам дадзенай Маці, якая дала яму жыццё, а ёсць нейкія, хай сабе і добра знаёмыя, дзве жанчыны... Між тым дзіця на генным узроўні адчувае фальш такой дваістасці. Яно адчувае, успрымае адну і толькі адну Боскую роднасць — адну родную маму, адну родную мову. Інакш — бяда. Статыстыка і педагогіка аб'ектыўна сцвярджаюць: толькі 5% з дзяцей-сірот, якія не зведалі цяпла мацярынскіх грудзей і мелодыкі роднай песні, аказваюцца здольнымі пры дасягненні паўналецця ўліцца паўнавартасна ў жыццё грамадства. Астатнія пакутуюць, а то і гінуць фізічна і маральна.

Таму не будзем заплюшчваць вочы: сучасны трывожны маральна-духоўны стан беларусаў у значнай ступені ёсць вынік неразумнай моўнай палітыкі ў Беларусі за апошнія дзесяцігоддзі.

Беларусы! Прыслухайцеся ўважліва да сваіх дзетак, унукаў і праўнукаў. Многія з вас, мабыць, ужо чулі ад іх: "Не люблю белорусский язык" або яшчэ больш забойчае: "Я ненавижу белорусский язык" і іншае ў гэтым рэчышчы. Што можа быць больш страшным, трагічным для бацькоў, бабуль і дзядуль? Толькі страціўшы любоў і здаровы гонар да самога сябе, можна быць глухім да душэўнай бяды свайго роднага дзіцяці, унука.

Прывяду рэальны прыклад. У 4-м класе прэстыжнай сталічнай школы дзецям далі заданне пераказаць казку ці прадэкламаваць любую байку *беларускага* ці *рускага* пісьменніка. Адзін вучань падрыхтаваў байку на беларускай мове. Хочаце верце, хочаце не, але настаўніца, уганараваная за сваё педагічнае майстэрства Міністэрствам адукацыі, перад усім класам сказала: "Не положено на белорусском языке на уроке русской литературы!" І хатняе заданне не было залічана.

Што рабіць аслупянеламу, духоўна здранцвеламу вучню? Добра выкананая ім дамашняя праца не проста не ацэнена — не прынята, адрынута паважаным і нават дарагім для вучня чалавекам. Не прынята, і ўсё! Нашы пісьменнікі і паэты маглі б аб унутраным свеце вучня-беларуса ў Беларусі, яго пачуццях і перажываннях напісаць цэлы твор! Хто адкажа за маральна-псіхалагічную траўму 10-гадовага хлопчыка, хто ўратуе яго ад магчымых новых пакут? А ратаваць жа трэба не аднаго канкрэтнага вучня — ратаваць трэба нацыю. Ратаваць усіх нашых дзетак і ўнукаў!

Што рабіць, калі сённяшняя сістэма выхавання і навучання давяла цэлае пакаленне да такога стану, што выратаванне магчыма толькі на дзяржаўным узроўні?

Мае канкрэтныя прапановы. Трэба неадкладна вярнуць у дзеянне Закон Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі "Аб мовах у Беларускай ССР", прыняты Вярхоўным Саветам Беларускай ССР 26 студзеня 1990 года і Пастанову Вярхоўнага Савета Беларускай ССР "Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Беларускай ССР "Аб мовах у Беларускай ССР". Гэтай пастановай Закон уводзіўся ў дзеянне з 1 верасня 1990 года, былі ўстаноўлены тэрміны паступовай рэалізацыі палажэнняў Закона ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Максімальны тэрмін дзеля яго выканання быў разлічаны на 10 год.

Заўважым, гэты Закон быў прыняты не "радикалами-националистами", якімі дасюль палохаюць народ нашы верхаводы, а камуністычным Вярхоўным Саветам. І за гэта яму хвала і падзяка.

Заклікаю чытачоў да дыскусіі і ўнясення сваіх прапаноў, парад — што рабіць, каб Беларусь стала беларускамоўнай, як Расія — рускамоўнай, Нямеччына — нямецкамоўнай і г. д. Што зрабіць, каб Беларусь не заставалася адзінай белай варонай у свеце? Каб беларусы — цэлая нацыя ў цэнтры Еўропы — не была сіратой без роднай мовы? І хто за моўна-культурны стан беларускай (ліцвінскай) нацыі павінен несці адказнасць?

**Мікола САВІЦКІ,**
**прафесар,**
**акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі.**

СІТУАЦЫЯ

# Апошні бой старога салдата

*Тры гады ветэран Вялікай Айчыннай вайны, 85-гадовы барысаўчанін Іван Андрэевіч Аўсяйчук, грукаецца ў дзверы чыноўнікаў раённага, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў, патрабуючы добраўпарадкаваць старую частку Барысава і спрабуючы даведацца, як патрачаны грошы на аднаўленне горада. У адказ адпіскі і чыноўніцкае раўнадушша...*

Безліч цёплых і правільных слоў гаворыцца кіраўніцтвам нашай краіны на адрас ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны. Праўда, збольшага не ў паўсядзённым жыцці, а з нагоды Дня Перамогі. Вось, напрыклад, цытата з выступлення Аляксандра Лукашэнкі: *"Ваш унёсак у дзяржаўнае будаўніцтва неацэнны. І сёння вы ў страі — дапамагаеце мудрай парадай, удзелам у выхаванні маладога пакалення, вучыце нас захоўваць вернасць традыцыям бацькоў і дзедаў".*

Прыгожыя, правільныя словы. Але...

85-гадовы ветэран Вялікай Айчыннай вайны Іван Андрэевіч Аўсяйчук прайшоў у гады ваеннага ліхалецця ад Кіева да Берліна. Сёння ён на сабе адчуў, як насамрэч "прыслухоўваюцца" да ветэранаў у нашай краіне...

Усё распачалося з таго, што жыхары вуліцы "Нармандыя—Нёман" абралі Івана Андрэевіча адказным за навядзенне парадку ва ўласным раёне. Праца — на грамадскіх пачатках, але стары салдат прывык да любога задання ставіцца сур'ёзна.

*"Сітуацыя, што склалася ў камунальнай гаспадарцы Барысава, на маю думку, проста жахлівая,* — распачынае свой аповед Іван Андрэевіч. — *Такое ўражанне, што тут пануе поўная безгаспадарчасць. У цэнтральнай частцы Барысава стаяць разваленыя дамы, якія псуюць знешні выгляд горада, у старой частцы Барысава адсутнічаюць абсталяваныя аўтобусныя прыпынкі, у дажджлівае надвор'е людзі вымушаны мокнуць у чаканні грамадскага транспарту, дзе-нідзе адсутнічаюць пешаходныя дарогі, разбіты тратуары...Ну як тут змаўчаць?"*

Пра ўсе гэтыя камунальныя хібы Іван Аўсяйчук напісаў старшыні Мінаблвыканкама Барысу Батуру. *"Нават у пасляваенныя гады наноў адбудоўваліся гарады, аднаўляліся заводы і фабрыкі, а зараз у мірны час гарадское кіраўніцтва не ў стане вырашыць простую праблему. Напрыклад, банальна абсталяваць аўтобусны прыпынак. Калі так, то я лічу, што такіх кіраўнікоў трэба мяняць",* — тлумачыць Іван Андрэевіч свой зварот да "губернатара".

Але адказу за подпісам Батуры Іван Аўсяйчук не атрымаў. Хто вінаваты ў безгаспадарчасці? Ці будуць знойдзены і пакараны вінаватыя? Гэтыя пытанні павіслі ў паветры. Ветэрана праігнаравалі.

Іван Аўсяйчук звярнуўся ў Камітэт дзяржаўнага кантролю Беларусі. Цікавіўся, куды і як растрачваюцца выдаткаваныя з дзяржбюджэту сродкі на рамонт жылога фонду ў Барысаве. Высветлілася, што быў праведзены капітальны і цякучы рамонт жылога фонду на суму 5,713 мільярда рублёў, яшчэ 1,55 мільярда асвоена на рамонт моста праз Бярэзіну, яшчэ 100 мільёнаў патрачана на новае абсталяванне для дзіцячых пляцовак.

*"Вось навучыліся ўсё мільярдамі лічыць. Але куды пайшлі тыя мільярды?.. Пасля таго як прыйшоў гэты адказ з лічбамі, я звярнуўся ў КДК з паўторнай заявай, папрасіў адказаць, на што канкрэтна гэтыя грошы патрачаны, назваць адрасы. Бо дзіцячыя пляцоўкі як былі разбітымі, так і заставаліся ў тым жа стане, у цэнтры Барысава па-ранейшаму застаюцца паўразваленыя дамы, і нікому да іх справы няма... Вось я спрабаваў дабіцца, хто займаўся кантролем расходавання гэтых сродкаў. Бо ці мала што можна на паперы напісаць! Як на маю думку, дык толькі за той мільярд, што быў выдаткаваны на рамонт моста праз Бярэзіну, можна было з Барысава цацку зрабіць. Хаця б знешне..."*



Але на паўторную заяву Аўсейчука з Камітэта дзяржкантролю прыйшла банальная адпіска: маўляў, не хвалюйцеся, у нас усе адказы на вашыя пытанні ёсць...

Незадаволены такім стаўленнем да сябе, Іван Аўсяйчук звярнуўся ў Адміністрацыю прэзідэнта Беларусі. *"Ва ўсе часы чыноўнікі на месцах тварылі свавольства,* — гаворыць Іван Андрэевіч. — *Але ж можна было паскардзіцца, вярхоўная ўлада да простага чалавека ставілася з павагай. У свой час я сустракаўся з Пятром Міронавічам Машэравым, размаўляў з ім, як з вамі. І пытанні вырашаліся... Было ў мяне спадзяванне на кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі спадара Макея. Яму і напісаў, дамагаючыся асабістага прыёму. Бо справа ў мяне не асабістая, не за сябе я клапачуся. Мяне хвалюе, як растрачваюцца бюджэтныя сродкі..."*

Трапіць на прыём да Уладзіміра Макея Івану Аўсейчуку не ўдалося. "Па ўказаных пытаннях перапіска з вамі спынена, пра што вы праінфармаваны лістом ад 17 чэрвеня 2011 года. Такім чынам, падстаў для прыняцця Адміністрацыяй Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дадатковых мер рэагавання па Вашых зваротах няма, у тым ліку для запісу Вас на прыём да кіраўніка Адміністрацыі Макея У.У. ці іншых адказных асоб падстаў не маецца".

*"Вось так! Ні ў чым не разабраліся, нічога па сутнасці маіх пытанняў не адказалі, а перапіску спынілі!.."*

І тады Іван Андрэевіч вырашыў дастукацца асабіста да Аляксандра Лукашэнкі. Яму патлумачылі, што справа гэта бессэнсоўная, што прэзідэнт прыёмаў не вядзе, што ў яго ёсць іншыя важныя справы. Але Іван Аўсяйчук усё ж спадзяваўся, што для яго, ветэрана вайны, кіраўнік дзяржавы зробіць выключэнне.

*"Аляксандр Рыгоравіч, я прашу сустрэчы з Вамі, каб расказаць пра тое, як Вашы падначаленыя працуюць з народам,* — пісаў Аўсяйчук на імя Лукашэнкі. — *Я прашу дапамагчы мне даведацца, як патрачаны 9 мільярдаў беларускіх рублёў, паколькі ў гэтым пытанні мне ніхто з вашых падначаленых дапамагчы не хоча. Прашу Вас: пасля разгляду майго звароту і прыняцця Вамі рашэння дайце мне, калі ласка, адказ".*



Зварот на імя Лукашэнкі ветэран вайны напісаў у лістападзе мінулага года... Адказу ад кіраўніка дзяржавы няма і па сённяшні дзень. І Іван Аўсяйчук прыйшоў да нас. У газету. *"Я хачу, каб вы пра гэтую сітуацыю напісалі. Лічыце, што гэта мой, старога салдата, апошні бой. Я хачу, каб Аляксандр Лукашэнка ведаў, што я прабіваюся да яго на прыём. Я, ветэран вайны, чалавек, які працаваў усё жыццё, хачу расказаць пра тое, што адбываецца ў Беларусі, праўду. Ужо не ў дзіцячых пляцоўках справа, не ў рамонце прыпынкаў ці дамоў. Я хачу расказаць яму пра сапраўднае стаўленне да людзей у нашай краіне".*

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

ПОСЛЕСЛОВИЕ

## Праздник запомнится...

Была я 9 Мая на празднике в городском парке имени Желибера в Гродно. Было тепло, многолюдно, празднично. Ветераны и те, кто хотел отдохнуть, садились на скамейки, выкрашенные в праздничный желтый цвет. Я тоже, как и многие другие, посидела на лавочке. А потом... праздник закончился. Все брюки оказались в краске.

Как оказалось, скамейки буквально за день до праздника были выкрашены (вернее залиты) толстым слоем краски, чтобы прикрыть угрюмый коричневый цвет, а также многочисленные трещины от толстого слоя старых красок. (У нас ведь все красят поверх старого слоя, не счищая его.) То есть скамейки уже не красили, а заливали. Эти слои — куски краски — потом красовались у многих на одежде, в том числе на парадных костюмах ветеранов. Но кто-то же должен ответить за то, что людям так испортили праздник, так испортили настроение, довели до слез!

**Л.БЛОХОВА.**

*Гродно.*

АБРАЗКІ

## Сонечныя кроплі

Настылыя за зіму між гарадскіх камяніц дрэўцы доўга не адгукаліся на пяшчоту красавіцкага сонца. Ім яшчэ сніліся іскрыстыя пералівы сумётаў, чулася скавытанне завірухі. Ды ўжо іншыя вятры нарадзіліся там, на прасторах раскаваных палёў, у засмучанай далечы імшарын. Раскруціўшыся між лабатых узгоркаў, увабраўшы вясновы пошум і птушыны грай гаёў і дуброў, вятры з усіх бакоў урываліся ў горад і тармасілі сонныя прысады: прачынайцеся. Вясна! І дрэўцы расплюшчылі клейкія павекі-пупышкі.

А надвячоркам на горад рушылі навальнічныя хмары. Яны густа клубіліся, падсвечаныя пісягамі бліскавіц. Цэлую ноч шумеў дождж — цёплы, гаманкі. І раніца прачнулася ў мірыядах іскрыстых сонейкаў. А ў кожным лісточку ззяла кропелька дажджу. І ў кожнай кропельцы — маленькі адбітак сонца.

От цяпер сапраўды і ў горад завітала пяшчотная вясна-прыгажуня.

## Блакітная блакада

На дне глыбокага яра сплываў брудна-шэры ком зліплага снегу. Пень-выварацень, растапырыўшы лапы-карэнні, з усяе свае трухлявае моцы пнуўся засланіць сонца і ўратаваць парэшткі былога сумёту, з якім так хораша было драмаць узімку пад завейныя песні-калыханкі.

А сонца што ні дзень — то вышэй. І ўсё глыбей зазірае пад выварацень. Усё меншае набрынялы сумёт, плачучы буйнымі слязьмі. Яму крыўдна. І асабліва крыўдуе на бесцырымоннасць блакітных пралесак. З выгляду такія цнатлівыя, кволыя, а от не дачакаюцца яго скону, абкружылі з усіх бакоў і ідуць у наступ. Дыхнуць бы на іх холадам, астудзіць, замарозіць. Ды няма ўжо сілы разарваць блакітную блакаду. У іх жа, пралесак, у хаўрусніках само сонца!

**Сцяпан КАЗЛОЎСКІ,**
**рабочы прадпрыемства "Мінскэнергаспецрамонт",**
**сталы падпісчык "Народнай Волі".**

З НАГОДЫ

## Ці дапаможа Пуцін беларусам дэмакратызавацца?

*"Днямі прайшла інаўгурацыя прэзідэнта Расіі Уладзіміра Пуціна. Але памятаю, як раней дэпутат Вярхоўнага Савета Беларусі, былы палітычны вязень Андрэй Клімаў выказваўся, што ён з Пуціным у добрых адносінах, а апошні дапаможа дэмакратызаваць Беларусь... І што — дапамог? Як быў у Беларусі аўтарытарны рэжым, такі ж і застаўся. Ці без Пуціна, ці з Пуціным... Ці не так, спадар Клімаў?"*

**Барыс ПІНЧУК, г.Мінск.**

— Па-першае, я не казаў са стопрацэнтнай упэўненасцю, што Уладзімір Пуцін зможа дэмакратызаваць Беларусь, а проста выказваў сваё меркаванне, — тлумачыць Андрэй КЛІМАЎ. — Але давайце адкінем палітычны бок справы і паглядзім праўдзе ў вочы. Сёння адчынены расійскі рынак для нашай не заўсёды канкурэнтаздольнай прадукцыі, па сутнасці, няма мяжы, беларусы масава з'язджаюць працаваць у Расію, асноўныя інвестыцыі ідуць менавіта адтуль... Вы ўяўляеце, што будзе, калі Крэмль адмовіцца ад энергетычнай падтрымкі Беларусі? Таму мне падаецца, калі зыходзіць з бонусаў для эканамічных і палітычных рэформ, Расія зрабіла дастаткова, каб забяспечыць нас бязбедным існаваннем. Але не трэба казаць, што вось Пуцін, як архангел Міхаіл, спусціцца на зямлю — і ў Беларусі адразу наступіць дэмакратыя. У Расіі дастаткова сваіх праблем, у яе свае геапалітычныя задачы. А дэмакратычныя змены перш за ўсё ў руках саміх беларусаў.

Іншая справа, што калі Крэмль будзе падтрымліваць нецывілізаваную ўладу, то рана ці позна, але за гэта прыйдзецца адказваць і Расіі. З яе таксама спытаюць. Не пойдзе ж Расія вайной супраць усяго цывілізаванага свету. Таму пасля інаўгурацыі Пуціна беларускім уладам давядзецца няпроста...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

